*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№ 239 (1303)**

Пятніца, 21 снежня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

### Надвор'е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам снег, мяцеліца, месцамі моцны снег, а ўначы 21-га — месцамі невялікі снег.. Вецер заходні, 7—12 м/с, 21-га ўдзень і 22-га на працягу сутак — парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра 21-га ўначы — -10...-15, пры праясненнях — да -20, удзень — -1...-6, па паўднёвым усходзе — -6...-11, 22-га на працягу сутак — -1...-6, удзень па паўночным захадзе — -4...-9.



**ПУЛЬС**

## Мінск гатовы да сустрэчы Новага года

Святкаванні Новага года распачнуцца 30 снежня апоўдні запальваннем агнёў на галоўнай ёлцы краіны, размешчанай на Кастрычніцкай плошчы. Затым адбудзецца шэсце дзедаў марозаў ад Кастрычніцкай плошчы да праспекта Машэрава, дзе пройдзе тэатралізаванае прадстаўленне з удзелам беларускіх артыстаў і выхаванцаў школ фігурнага катання. У шэсці возьмуць удзел каля 350 дзедаў марозаў і снягурак з усіх раёнаў Мінска — амаль у два разы больш, чым летась. У гэты ж дзень, з 17 да 22 гадзін, на плошчах Кастрычніцкай і Незалежнасці пройдуць святочныя прадстаўленні для моладзі.

31 снежня, з 11 да 15 гадзін, адбудуцца тэатралізаваныя прадстаўленні для дзяцей, пасля чаго, да 22 гадзін, будуць арганізаваныя дыскатэкі. У навагоднюю ноч на галоўных плошчах горада з 00.30 і да 5 раніцы пройдзе святочнае шоу з удзелам "зорак" беларускай эстрады. У 1.30 ля абеліска "Мінск — горад-герой" на праспекце Машэрава пачнецца вялікі феерверк.

Апрача таго, у ноч з 31 снежня на 1 студзеня святочныя праграмы пройдуць ля 22 раённых ёлак.

**Лавінія АРЭШКА.**

## У Казлоўскага скралі галаву дзіка

### Але хутка знайшлі. Генерал удзячны міліцыянтам

**У былога кандыдата ў прэзідэнты і былога міністра абароны Паўла Казлоўскага месяц таму абакралі загарадную "фазэнду", што ў Раўбічах. Скралі мікрахвалевую печку, прадметы посуду, пару-тройку старых джынсаў, куртку і... галаву дзіка, якая вісела на сцяне. Разам з Казлоўскім не пашанцавала яшчэ дваццаці ўладальнікам дач — іх гаспадаркі таксама былі абрабаваны.**

Як высветлілася крыху пазней, галава няшчаснай жывёліны значна дапамагла следчым хутка знайсці зладзеяў — трох 18-гадовых хлопцаў, мясцовых жыхароў, якія праз падстаўных асоб паспрабавалі прадаць чучала на адным з бліжэйшых рынкаў.

Павел Казлоўскі папрасіў праз газету выказаць удзячнасць за хуткую і якасную працу капітану міліцыі А.Л.Станіслававічу, оперупаўнаважанаму Л.З.Казарану, эксперту крымінalістыкі А.В.Дзенісені і следчаму С.І.Булку мінскага раённага аддзела ўнутраных спраў, "якія, нягледзячы на вельмі гаротны стан беларускай міліцыі, на слабое тэхнічнае ўзбраенне, дэфіцыт паліва, працягваюць добра рабіць сваю справу". "Нашы міліцыянты, аказваецца, могуць не толькі па-майстэрску масажыраваць бакі грамадзян на мітынгах, але і рабіць тое, што яны мусяць рабіць, — вышукваць злачынцаў", — з усмешкай на вуснах сказаў генерал.

**Алёна ДАШКЕВІЧ.**

## Святочнае пасланне

### Дарагія жыхары Беларусі, браты і сёстры! Віншуем асабіста кожнага з вас, вашы сем'і з вялікім святам Нараджэння Хрыстова і Новым, 2002, годам!

Мы пачалі ўжо забываць, што жывём у новым, трэцім, тысячагоддзі ад Нараджэння Хрыста. Трагічныя здарэнні 11 верасня гэтага года напомнілі нам, што мы перайшлі ў новую эпоху, якая прымушае нас пановаму ўсвядоміць сваю адказнасць за жыццё на зямлі. Дасягненні чалавечай цывілізацыі не захоўваюць нас ад зла, гвалту, тэрору, алкагалізму, наркаманіі, маральнай дэградацыі. Таму і быў пасланы на зямлю Збаўца Ісус Хрыстос.

У 2-й главе Евангелля паводле Лукі (вершы 7—11) пра гэта запісана так: **"І нарадзіла Сына Свайго першынца, і спавіла Яго, і паклала Яго ў яслі, бо не было ім іншага месца. У той краіне былі на полі пастухі, якія трымалі начную варту каля статку свайго. Раптам з'явіўся ім ангел Гасподні, і слава Гасподня апраменіла іх; і спалохаліся страхам вялікім. І сказаў ім ангел: не бойцеся, я ўзвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе ўсім людзям: бо сёння нарадзіўся вам у горадзе Давідавым Збаўца, Які ёсць Хрыстос Гасподзь".**

Свята НАРАДЖЭННЯ ХРЫСТОВА можа дапамагчы нам сур'ёзна задумацца, чаму Сын Божы стаў Немаўляткам і спасцігнуць уласную вінаватасць, і вялікую літасць, і любоў Бога да нас. Вера ў Ісуса Хрыста прыносіць нам дараванне, усынаўленне, вяртае страчаныя надзею і любоў, адраджае да новага радаснага жыцця. І тады мы ўжо не баімся цяжкасцяў, хвароб, а радуемся, усведамляючы, што ніхто не ў сілах прыменшыць таго прасвятлення ў чалавечым свеце, якое прыйшло праз Ісуса Хрыста.

Не бойцеся, але радуйцеся з таго, што Ісус Хрыстос не пакінуў нас. Ён з намі, Ён Збавіцель, Ён уцелаісціўся дзеля нас, памёр за нас, уваскрос для нашага апраўдання, перамогшы грэх і смерць, і будучае ўсёй зямлі і кожнага чалавека ў Божых руках. Не згубіце часу пакаяння, часу вяртання да Бога. Толькі тады прыйдзе мір у нашы сэрцы і любоў у нашы сем'і, і надыдзе дабраславенне зямлі беларускай, і спыняцца варожасць і войны на зямлі.

Няхай Гасподзь наведае вас, вашы дамы і сем'і, асабліва ў гэтыя дні. Няхай будзе ў вас дабраславенным свята Нараджэння Хрыстова, ззянне якога не знікне, святло якога не згасне, радасць якога не пройдзе.

**З любоўю да ўсіх вас,**

**А.І.ФІРЫСЮК, епіскап цэркваў евангельскіх хрысціян баптыстаў у Рэспубліцы Беларусь.**

**ПОЗИЦИЯ**

## Затворник Божелко

***Соседи экс-генерального прокурора говорят, что в последнее время он никогда не выходит из дома один.***

Телефонную трубку в квартире Божелко постоянно снимает мужчина, который, как автоответчик, монотонно твердит: "Олега Александровича нет дома. Когда будет — не знаю".



Супруга бывшего прокурора, видимо, по-прежнему нигде не работает. Во всяком случае, большую часть дня она проводит дома, изредка выходя в магазин. Тем не менее к телефону Маргарита Владимировна никогда не подходит.

Экс-генпрокурор по-прежнему игнорирует корреспондентов. Хотя, например, тот же Владимир Мацкевич после громкой отставки, при всей щекотливости своего положения, когда был дома, сам снимал трубку и не отказывался от разговора с журналистами. Единственное условие, которое он ставил, не касаться темы громких исчезновений. У Божелко и на это не хватает духа.

Генерал Лопатик после того, как в прессе был опубликован его рапорт, уехал на дачу. Подальше от всех. Однако от разговора с журналистом "Народной воли" не отказался. Пригласил в дом, напоил чаем и кое-что все-таки рассказал.

Накануне президентских выборов лидер движения "За новую Беларусь" Василий Леонов много говорил об остатках совести у этого человека и был почти уверен, что Божелко расскажет то, что ему известно об исчезновении Захаренко, Гончара, Красовского и Завадского.

Вероятно, молчание Олега Александровича чем-то обосновано. Когда его вызвали в качестве свидетеля в суд по делу Завадского, он вроде бы четко и ясно озвучил свою позицию. Вроде бы все сказал. Вернее, ничего не сказал.

Интересно, что он будет делать дальше?..

**Марфа СТРИГУН.**

**ДЫЯЛОГ: ГАЗЕТА — ЧЫТАЧЫ**

# "Ало, галоўны рэдактар?"

*Такой "прамой лініі" ў "Народнай волі" яшчэ не было. Не пяць, як разлічвалася, а болей шасці гадзін вёў дыялог з чытачамі галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ.*
*Даць поўную стэнаграму, вядома ж, немагчыма. А таму друкуем фрагменты тэлефоннага дыялога, які адбыўся 12 снежня.*

*Меркавалі: дыялог з чытачамі пачнецца ў 12.00. Фактычна ён распачаўся амаль на гадзіну раней. І першы тэлефонны званок аказаўся нечаканым.*

**— Ало, перадайце Юзіку, што "Народную волю" я больш не выпісваю...**

— Перадаваць не трэба. Калі вы маеце на ўвазе галоўнага рэдактара, то я вас слухаю...

**— "Народная воля" стала лукашэнкаўскай...**

— Што значыць лукашэнкаўскай?

**— Са старонак газеты зганяецца апазіцыя, чытаць няма чаго...**

— Прабачце, але гэта...

*Мой субяседнік не захацеў выслухаць контраргументы, кінуў трубку. Я думаю, што вы, шаноўныя чатачы, самі зробіце адпаведныя высновы. Скажу толькі: "Народная воля" — незалежная прыватная газета, яна не з'яўляецца афіцыйным органам ні апазіцыі, ні ўлады. Як дэмакратычнае выданне, адстойвае правы чалавека, рынак, незалежнасць Беларусі, адраджэнне яе гісторыі, культуры, родную мову. Чысцілі балбатуноў — каго б яны не прадстаўлялі — і чысціць будзем. Дзейсную, актыўную апазіцыю падтрымлівалі і падтрымліваць будзем, але нам не па шляху з тымі, хто называе сябе апазіцыянерам, а на справе з'яўляецца самым сапраўдным штрэхбрэхерам, лье ваду на мельніцу таго ж рэжыму.*

**— Алло, Могилев беспокоит, Виктор Антонович Юшкевич.**

— Что хотели бы сказать?

**— "Народной воле" пора раскручивать нового лидера оппозиции.**

— Согласен, но где он, этот новый лидер? Его должен выдвинуть народ.

**— Активнее пропагандируйте истинно белорусские ценности. Расширяйте понятие современного терроризма. В Беларуси — это не только исчезновение Захаренко, Гончара, Красовского, Завадского... Посмотрите, как измывается "вертикаль" над людьми — это разве не терроризм?**

— Спасибо за необычный взгляд. Подумаем над вашими предложениями.

**— Звонит вам Игорь Николаевич Колонденок, минчанин. Позвольте внести несколько предложений...**

— Пожалуйста.

**— Заведите в газете рубрику "Самые богатые люди Беларуси". В России это не секрет, в других странах тоже, а у нас...**

— Сложно получить такую информацию.

**— Но такая рубрика нужна. Как, впрочем, и рубрика "Все — о президенте". Налогоплательщик, на содержании которого находится этот самый высокий чиновник, должен знать, как расходуются его деньги. Рядом с редакцией — приемная Администрации президента — видели б вы, какие там страсти бушуют. Побольше горячих репортажей...**

*Игорь Николаевич Колонденок дал немало других советов журналистам "Народной воли". Резонное замечание — мало, очень мало готовим материалов на экологические темы, недостаточно остроты в снимках, редко проводит редакция организационные акции.*

**— Прабачце, я — Галіна Аляксееўна Бялова, настаўніца з Гомеля. Ведаеце, пра што я хачу сказаць?**

— Пра што?

**— У Беларусі болей двух мільёнаў пенсіянераў. Добра было б, каб "Народная воля" схіліла іх на свой бок. Больш пішыце, як жывуць пенсіянеры за мяжой, як там наладжаны іх быт, медыцынскае абслугоўванне, які памер іх пенсій, што яны могуць купіць...**

— Дзякуй, Галіна Аляксееўна, за слушную прапанову.

**— Пачакайце, хачу сказаць яшчэ некалькі слоў. Больш удзяляйце ўвагі настаўнікам. Ім таксама трэба вочы расплюшчваць. Расказвайце, як жывуць іх калегі ў іншых краінах, які маюць заробак, умовы працы, жылля, як адпачываюць...**

*Нельга не пагадзіцца з Галінай Аляксееўнай у тым, што "Народная воля" слабавата распрацоўвае маладзёжную тэматыку. Рэдка на старонках газеты з'яўляюцца цікавыя пісьменніцкія творы альбо вытрымкі з іх.*

**— Зыль Адам Андреевич, 65 лет.**

— Спасибо, Адам Андреевич, за звонок.

**— Помогите оппозиции получить эфирное время на радио и телевидении. Борьба за доступ к государственным средствам массовой информации должна быть более активной. Еще Сталин понимал важность информации...**

— Мы об этом много пишем, но, считаем, сами оппоненты власти недостаточно напористо действуют. Они ждут, что их позовут на то же телевидение. Не дождутся...

**— Рассказывайте о духовном этноциде в нашей стране. При этом используйте мнение мировых авторитетов. Понятно, на наших правителей может серьезно подействовать Россия, но во многом нужно убедить самого Путина...**

*У тэлефоннай трубцы — жаночы голас. На пытанне "Ваша прозвішча?" інкогніта адказала: "Можна я не буду называць?". Што ж, так дык так.*

— Што вас хвалюе, даражэнькая?

**— Падымайце патрыятычны дух людзей. Многія не ведаюць сваю гісторыю, сваіх каранёў. Вядзецца нахабная русіфікацыя, знішчэнне ўсяго беларускага...**

— Згодзен, у беларусаў вельмі нізкі інстынкт самазахавання.

**— А тут яшчэ з ранку да позняга вечара балбочуць пра нейкі "саюз ваўка і ягняці". Дураць людзей, дураць...**

*Наступным субяседнікам аказаўся Сцяпан Паўлавіч Палячок. Пенсіянер, інвалід, у яго свой погляд на газету, на жыццё...*

**— Важно, чтобы "Народная воля" и дальше оставалась объективной и справедливой. Она должна быть советчицей людей. Как в наше трудное время дать детям хорошее образование? Как заиметь добротную квартиру? Как не ошибиться в создании семьи? На эти и многие-многие другие вопросы читателям хотелось бы получать ответы на страницах газеты.**

— А вы много читаете?

**— Пенсия у меня около ста тысяч рублей. Трудности с подпиской...**

— Я постараюсь помочь вам с подпиской на "Народную волю".

**— Ало, гэта Генадзь Лагуновіч...**

— Наш пастаянны аўтар, часты госць рэдакцыі?

**— Так, так.**

— І што вы хочаце сказаць?

**— Можам згубіць Беларусь. Каб гэтага не адбылося, трэба больш прыкласці намаганняў літаральна ўсім. З год таму правялі з'езд "За незалежнасць Беларусі" — і змоўклі. А, памятаецца, аргкамітэт абяцаў працягнуць работу.**

— Напішыце нам пра гэта.

**— Абавязкова напішу.**

*Калі гэтая справаздача здавалася ў друк, на сакратарскім стале ўжо ляжала карэспандэнцыя Генадзя Лагуновіча. Болей бы такіх нераўнадушных людзей!*

**— Я — Лидия Ивановна Рубан, Новогрудок. Имею высшее образование, большой опыт работы с людьми.**

— Есть что сказать...

**— Конечно. Больше пишите об известных людях на местах. Не только в Минске много умных людей, но и на периферии.**

— Да, маловато мы заглядываем в глубинку.

**— А задумывались вы над тем, почему люди недовольны многими из тех, кто во власти? Потому, что зачастую не тем доверяем руль. Не всегда во главу угла ставится нравственность кадров.**

— Не поэтому ли прислужничество, холуйство становятся чуть ли не главными качествами чиновников?

**— К сожалению, это очень распространенное явление. Бесхребетное подчинение грубым, наглым "вертикальщикам" ведет, я считаю, к вырождению людей.**

*Может, Лидия Ивановна несколько сгустила краски, но и не согласиться с ней нельзя. Как, впрочем, и со следующим собеседником, который не назвал свою фамилию.*

**— Я спецыяліст сельскай гаспадаркі. Для мяне незалежнасць Беларусі — гэта ўсё: мая маці, мая Радзіма, зямля, паветра... Старайцеся тлумачыць людзям, што калі згубім незалежнасць, то згубім усё. А наша Беларусь не бедная, мы маем усё, што трэба для жыцця. У нас ёсць нармальная зямля, ёсць рэкі, азёры, лясы... У нас багатыя недры... Перастаньце толькі на "Кіраўцах" вазіць пяць бідонаў малака. Словам, будзем больш эканомнымі, больш ашчаднымі.**

— Ці ж можна не пагадзіцца? Што тычыцца нас, журналістаў, то будзем дзейнічаць так, як вы раіце.

**— Алло, на проводе Эдуард Дмитриевич Подлозный.**

— Откуда?

**— Из Минска, докторант Белорусской государственной политехнической академии.**

— Пожалуйста, вам слово.

**— Возьмите под журналистский контроль обещания высоких чиновников. Говорили о том, что к концу года месячная зарплата будет в пределах ста долларов. А где она? К тому же цены сумасшедшие...**

— А как выживают докторанты?

**— Стипендия — около 65 долларов.**



*Эдуард Дмитриевич является сторонником более эффективного использования интеллектуального потенциала страны. В том числе и в рамках совместных проектов России и Беларуси. Опять заговорили о перекрытии Керченского пролива. А ведь ученые из Минска давно к этой проблеме подступались и имеют определенные наработки.*

**— Меня зовут Александр Мечеславович. Считаю, у нашего правительства нет конкретного плана по выходу из кризиса.**

— Могли бы что-нибудь подсказать? Скажем, через газету...

**— Я считаю, что у нас может быть большей величина денежной массы. Сейчас на человека приходится 60 долларов, а почему бы не в десять раз больше?**

— Подготовьте, пожалуйста, на эту тему специальную статью...

*Опять анонимный звонок. Не назвав фамилию, человек рассказывает о том, как ему живется в столичном микрорайоне Малиновка. Дом стоит по улице Рафиева, 51. С наступлением морозов температура на кухне выше 15—16 градусов не поднимается.*

— Обращались в ЖЭС?

**— Обращались.**

— Что говорят?

**— Лучше утепляйтесь. Хотя о каком утеплении можно вести разговор, если в соседних домах люди в майках ходят.**

— Значит, нелады с оборудованием?

**— Скорее всего так. Но никто и слушать не хочет...**

— А вы постарайтесь подать на чиновников в суд.

**— Видимо, придется.**

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

**СУД**

## "Сообщники" Чигиря-младшего заявили, что их пытали

Судебный процесс по делу Александра Чигиря — младшего сына экс-премьера Михаила Чигиря, — полуоткрытый: допущены лишь родственники и журналисты по числу "посадочных мест" в зале суда. Десятки "рядовых граждан" выставлены за дверь.

Чигиря-младшего обвиняют в организации преступной банды в составе трех человек, члены которой по указанию своего главаря, Александра, угоняли легковые автомобили, разукомлектовывали их и продавали на авторынке, получая от А.Чигиря по 300-400 долларов за каждую уворованную иномарку.

В первый день допрошены члены "преступной группы". Все участники "банды Чигиря" вину свою не признали в полном объеме и пояснили суду, что в Московском РУВД Минска их подвергли жесточайшим физическим пыткам, в результате которых они вынуждены были написать так называемую явку с повинной.

По версии государственного обвинителя, озвученной в суде, Александр Чигирь лично распределял обязанности между членами преступной группы и называл марку автомобиля, который его сообщники обязаны были угнать. Но один из "бандитов", Антон Яцкевич, заявил суду, что с Александром Чигирем не знаком лично, не говоря уже о получении от него каких-либо заданий.

Второй "бандит", Дмитрий Яцкевич, сообщил суду, что его пытали в Московском РУВД и в следственном изоляторе. Бить его в сизо не били, но содержали в спецкоридоре, где находятся приговоренные к смертной казни, к пожизненному тюремному заключению, опасные убийцы и т.п. Условия содержания там таковы, что через восемь месяцев у Дмитрия Яцкевича проявилась открытая форма туберкулеза. Теперь обвиняемый является инфекционно-опасным и в зале суда находился с повязкой, закрывающей нос и рот.

Государственое обвинение на суде поддерживает старший помощник прокурора Ленинского района, юрист второго класса (старший лейтенант) Олег Слука.

Председательствует на процессе судья Сергей Хрипач.

**Валерий ЩУКИН.**



**ДЫСКУСІЯ**

# Суд хуткі і справядлівы

## Рэпліка сп. Аляксандру Старыкевічу

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ**

Вядомы наш журналіст Аляксандр Старыкевіч у нумары "Народнай волі" за 15 снежня г.г. "праязджаецца" па беларускай апазіцыі. Чамусьці, што праўда, не па ўсёй — напрыклад, не заўважае адзінага кандыдата на выбарах 9 верасня, не ацэньвае ягоных 100 дзён пасля выбараў. Напэўна, гэта ад захаплення сваім поспехам у інфармацыйнай кампаніі таго самага кандыдата, дзе спадар Старыкевіч адыгрываў, наколькі мне вядома, не апошнюю ролю... Ну, крытыкаваць іншых, вядома, лягчэй, чым бачыць свае ўласныя памылкі.

А я ўсё-такі разумею. Я разумею шаноўнага Уладзіміра Ганчарыка. які, можа, першы раз у жыцці сутыкнуўся з адкрытым процідзеяннем улад і спецслужбаў. Я разумею паважанага Анатоля Лябедзьку, які няўтомна кліча сваіх аднапартыйцаў і саюзнікаў да "жывых ланцугоў", імкнецца паказаць грамадству, што ёсць рэальныя і разумныя альтэрнатывы згубнай эканамічнай палітыцы існуючых улад. Я разумею свайго даўняга сябра Вінцука Вячорку, які з гэтых 100 дзён ці не 60 правёў не ў мінскіх кабінетах, а ў паездках па ўсёй Беларусі, размовах з людзьмі, якім нялёгка, а часам і страшна.

Можна, вядома, выліваць свой сарказм на каго хочаш. Толькі, Аляксандр, дарэмна ўсё гэта. Вячорка быў Вячоркам, закладаў парасткі духоўнага супраціўлення камуністычнаму рэжыму яшчэ на пачатку 80-х — гэта вядома тым, хто тады не займаўся сваёй партыйнай альбо камсамольскай кар'ерай, а думаў пра будучую беларускую Беларусь. і сёння без самарэкламы *а ля Гайдукевіч* гэты чалавек па цагліне адбудоўвае на трэць разбураны ў 1999 годзе будынак Народнага Фронту (толькі за гэты год у грамадскім аб'яднанні БНФ "Адраджэньне" прыйшло каля 1,5 тысячы новых сяброў).

Чаму не атрымліваецца так хутка і так добра, як хацелася б нам з Вамі? Вось жа, жывём мы, шаноўны Аляксандр, не ў краіне, дзе можа існаваць *апазіцыя,* а, на жаль, там, дзе патрэбен *супраціў* — доўгатрывалы і паслядоўны. Сумарныя тэрміны "адсідак" актывістаў ГА БНФ "Адраджэньне" і яго лідэраў толькі за гэты год перавалілі за некалькі месяцаў (дарэчы, Вячорка — не выключэнне, успомнім яго 10-суткавы арышт пасля апошняга Дня Волі) — не буду тут казаць пра сумарныя штрафы за палітычныя акцыі. У такіх варунках трэба шукаць разнастайных форм працы, гадаваць *прафесійных палітыкаў*, а не *прафесійных дысідэнтаў*. Вось гэта якраз і робяць і Вячорка, і Лябедзька, і Данейка, і іншыя, хто найперш мысліць, а потым дае свае ацэнкі.

Зайдзіце, Аляксандр, у якую з нашых беларускіх кнігарань ці зазірніце ў газетны кіёск. Вы ўбачыце там безліч манаграфій, папулярных кніг, артыкулаў, у якіх на ўсе лады апяваюцца тыя ці іншыя расійскія палітыкі, — нават такія, як Жырыноўскі, Прымакоў, Лебедзь, Тулееў, Зюганаў, не кажучы ўжо пра Гайдара, Нямцова — а пагатоў Ельцына ды Пуціна. Між іншым, ніхто з іх не тое што ні дня не сядзеў у смярдзючым, поўным насякомых акрэсцінскім "спецразмеркавальніку", яны амаль і пры Брэжневе і пры Гарбачове не бедавалі, мелі як мінімум асабістыя аўто ды сакратарак. Але ж нават там, у Расіі, шмат хто разумее, што палітыкаў трэба падтрымліваць (у тым ліку матэрыяльна), трэба ім дапамагаць, ствараць ім рэкламу. і нават калі потым складана бывае спытаць з іх за іхнюю працу — усё адно гэта паважаны (*там!!!*) занятак, бо без прафесійных палітыкаў (як ва ўладзе, так і ў апазіцыі) самастойнай дзяржавы не бывае.

Вы, Аляксандр, як журналіст маглі б правесці цікавае журналісцкае расследаванне. Навялі б, напрыклад, даведкі — у якім стане знаходзяцца тыя самыя былыя дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія абвяшчалі незалежную Рэспубліку Беларусь. Аўтары амерыканскай Дэкларацыі аб незалежнасці і падпісанты першай Канстытуцыі Злучаных Штатаў, напрыклад, залатымі літарамі ўпісаныя ў гісторыю гэтай краіны. Падпісант жа першай Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь Мечаслаў Грыб так і не здолеў уладкавацца на працу па сваёй спецыяльнасці. Усім даўно вядомы памер дзяржаўнай пенсіі Станіслава Шушкевіча. А шараговыя дэпутаты — тыя, што не пайшлі ва ўслужэнне да Аляксандра Лукашэнкі! Сяго-таго ўжо няма сярод жывых (як Ігара Пырха), альбо пра іх нічога не вядома (як пра Віктара Ганчара), іншыя — проста беспрацоўныя (як Віктар Алампіеў, Лявон Дзейка і многія іншыя), ёсць, на жаль, і тыя, што ад безвыходнасці апусціліся...

Вас жа, Аляксандр, найперш турбуе тое, што трыумфальнай перамогі дэмакратыі ў Беларусі няма і што "так будет продолжаться до тех пор, пока демократы не начнут предъявлять к своим лидерам самый жесткий спрос в части своих основных обязанностей". Адкажу я Вам толькі адно: *перш чым спытаць* у кагосьці за нешта, *трэба дапамагчы* яму гэтае рабіць. Трэба навучыцца патрабаваць ад іншых людзей не таго, *чаго Вам вельмі хочацца,* а таго, *што можна зрабіць з наяўнымі рэсурсамі.* Як мне думаецца, апазіцыі трэба якраз працаваць менавіта на пашырэнне гэтых рэсурсаў, а не на тое, каб, склаўшы рукі, сядзець і чакаць, калі з Месяца зваляцца новыя лідэры ды чароўныя ідэі, якія імгненна зменяць нашае грамадства.

